Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

9 – 15 КРАСАВІКА 1999 ГОДА
ВЫХОДЗІЦЬ ПА ПЯТНІЦАХ
ЦАНА 20000 РУБЛЁЎ

№15 (207)

## АДНА ЗЯМЛЯ

МАЛАДЗЕЧНА

### Міна на вуліцы Маладзёжнай

На будоўлі па вуліцы Маладзёжнай (у двары дамоў №18, 24) адзін з жыхароў убачыў штосьці падобнае на снарад. Адагнаў дзяцей (яны ў нядзелю на будоўлі гуляюць у "бэрыка" цэлымі кампаніямі) і выклікаў міліцыю. Тыя паведамілі ў ваенкамат.

"Снарад" аказаўся мінамётнай мінай, калібрам 82 мм, часоў Другой сусветнай вайны. У гэтым месцы фронт не праходзіў. Была дрыгва, а пазней метрах у 100 – аэрадром для грамадзянскіх "кукурузнікаў". Як патлумачылі ў ваенкамаце, мінамётная міна часцяком ляціць не туды, куды яе пасылаюць.

У аўторак мінёры з Мінска вывезлі знаходку на палігон і ўзарвалі. Жыхарам вуліцы Маладзёжнай пашчасціла. Вакол – жылыя дамы, і ў той сонечны дзень і дарослыя, і дзеці грэліся на вуліцы. Будаўніцтва дамоў працягваецца.

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

СМАРГОНЬ

### Вадасховішча - рыбакам

Райвыканком сваім рашэннем перадаў вадасховішча паблізу вёскі Белая плошчай 208 гектараў Смаргонскаму таварыству паляўнічых і рыбаловаў.

Вырашаецца пытанне замацавання за гэтым таварыствам участка Віліі ў межах раёна, а таксама 56–гектарнага возера Рыжае, 36–гектарнага возера Гушча. Перадаецца на баланс паляўнічых і рыбаловаў вадасховішча Рачунскае, люстэрка якога займае 102 гектары.

Мясцовыя і нават мінскія рыбакі адчуваюць сябе тут поўнымі гаспадарамі, цвіце браканьерства. Таму ўлады чакаюць, што са з'яўленнем сапраўднага гаспадара вадаёмаў адлоў рыбы і аднаўленне яе запасаў будуць пастаўленыя па–гаспадарску.

*Павел МАКЛЮК.*

МЯДЗЕЛ

### Кватэры пад «Ахову»

Новую паслугу прапануе сёлета раённы аддзел «Ахова». Ён прымае дамы, кватэры, гаражы пад ахову.

У райцэнтры пад сігналізацыю пастаўлена 4 кватэры. А да канца года плануецца паставіць 20. 31 красавіка кошт гэтай паслугі зменшыўся ўдвая і складае 250 тысяч у месяц.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

ВАЛОЖЫН

### З зямных нетраў

Вёска Станюшкі Івянецкага сельсавета неўзабаве павысіць сваю значнасць: тут выяўленыя багатыя запасы гліны, якая стане вытворчай сыравінай для Івянецкага завода мастацкай керамікі. Яна не саступае па сваёй якасці радашковіцкай.

Выкарыстанне мясцовых запасаў дазволіць скараціць і транспартныя расходы, што вымушаны несці завод, бо завозіць гліну з Маладзечанскага раёна.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

СМАРГОНЬ

### За ордэр трэба заплаціць

Шэраг новых падаткаў і збораў дзейнічае на Смаргоншчыне ў адпаведнасці з рашэннямі раённага і Гродзенскага абласнога Саветаў. Атрымліваеш ордэр на кватэру – плаці 0,5 мінімальнай зарплаты. Прыпаркуеш у цэнтры Смаргоні матацыкл – даставай 0,03 мінімальнай зарплаты, аўтамашыну – 0,06 мінімалкі. А грузавік і аўтобус абыходзяцца ўжо ў 0,1 мінімалкі за дзве гадзіны.

Збор з уладальнікаў сабак бярэцца ў памеры ад 0,1 да 0,3 мінімальнай зарплаты. Даражэй цэніцца рэклама – ад 0,2 да 20 мінімалак.

З 1 красавіка ўведзеныя новыя зборы за права гандлю і на ўтрыманне дзіцячых дашкольных установаў. На дашкольныя патрэбы калектывы плацяць 2 працэнты ад фонду заработнай платы, а гандляры – у памеры 0,5 мінімалкі за кожны квадратны метр, заняты пад палаткай ці кіёскам.

*Павел МАКЛЮК.*

МЯДЗЕЛ

### Каб з надвор'ем не падмануць

У кругласутачным рэжыме пачала працаваць азёрная станцыя "Нарач".

З красавіка метэаралагічныя назіранні праводзяцца не 2 разы на дзень (як было), а ўжо 8 разоў. Усе дадзеныя перадаюцца ў гідраметцэнтр.

*Алесь ВЫСОЦКІ.*

ВАЛОЖЫН

### Стралялі, аднак

Мясцовыя міліцыянеры прымянілі зброю пры затрыманні «гастралёраў» з Мінска.

Удзельнікі злачыннай групоўкі не давалі спакою прыватным прадпрымальнікам. Яны рабавалі гаражы, дзе тыя захоўвалі тавар.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*



ВЯЛІКДЗЕНЬ

# Бывайце, посныя дні!



*Пенсіянер Леанід Адынец з прыгарадных Мойсічаў прыехаў з унукам у сераду на маладзечанскі базар, каб закупіцца скаромнінкі перад Вялікаднем.*

***Віншуем праваслаўных з надыходзячым святам!***

«Рэгіянальная газета».

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

# Беларусь развіталася з Генадзем Карпенкам



У аўторак раніцай перастала біцца сэрца чалавека, імя якога застанецца ў гісторыі Маладзечна. Пасля кровазліцця ў мозг ад нас пайшоў вядомы вучоны, гаспадарчы дзеяч, палітык **Генадзь КАРПЕНКА.**

Генадзь Карпенка звязаў свой лёс з Маладзечнам у 1987 годзе, калі ён, тады яшчэ трыццацівасьмігадовы, але ўжо вядомы вучоны, прыехаў са сталіцы, каб падняць завод парашковай металургіі. Адпрацаваў там дырэктарам амаль пяць год. За гэты час завод, які раней хранічна не выконваў план, стаў перспектыўным прадпрыемствам, дзе ўкараняліся не толькі прагрэсіўныя тэхналогіі і ішло пастаяннае асваенне новых відаў прадукцыі, але дзе рабочыя сталі ганарыцца тым, што працуюць «на Парашках». Чаго вартае было хаця б увядзенне бясплатнага харчавання. Падчас работы на заводзе Г. Карпенка стаў доктарам тэхнічных навук і лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

У 1990 годзе маладзечанцы абіраюць яго дэпутатам Вярхоўнага Савета. Ён становіцца членам прэзідыума парламента. І зноў вяртаецца ў Маладзечна – узначальвае гарадскі выканком. Менавіта ў той час Маладзечна прыцягвае да сябе новы бізнес, банкі адкрываюць тут свае філіялы. Каб не палітычная сітуацыя, мы б маглі магчымасць ганарыцца сапраўднай, а не дэклараванай, свабоднай эканамічнай зонай. На жаль, усё здарылася не так. Планам не атрымалася быць рэалізаванымі.

Быў яшчэ час, калі Карпенка працаваў віцэ-спікерам Вярхоўнага Савета. Пасля стварэння апазіцыйнага ўладам рэспублікі Нацыянальнага выканаўчага камітэта, стаў яго старшынёй.

Ён меў велізарнейшы аўтарытэт. І прызнаюць гэта не толькі паплечнікі, але і самыя заўзятыя апаненты.

17 верасня Беларусь адзначыць 50-годдзе Генадзя Дзмітравіча. Адзначыць без яго. У кожным горадзе Заходняй Белрусі ёсць вуліца імя 17 верасня. Для маладзечанцаў ад сённяшняга дня яе назва будзе асацыіравацца не толькі з уз"яднаннем нашай краіны, але і з іменем аднаго з тых, хто аддаў сваё жыццё Беларусі.

У Маладзечне на мінулых выбарах у гарадскі Савет няхай не поўнасцю, але сфарміраваны яго састаў. У шэрагу першых крокаў дэпутатаў можа стаць прысваенне адной з гарадскіх вуліц, ці гарадскому стадыёну, напрыклад, імя Генадзя Карпенкі.

Учора Беларусь развіталася з Генадзем Карпенкам.

Жыццё Генадзя Карпенкі было непарыўна звязана са спортам. Ён вядомы футбольны арбітр. Калі прыйшоў працаваць на завод парашковай металургіі, упершыню ў горадзе з'явіўся прафесійны футбольны клуб, дзесяцігоддзе якога якраз сёлета.

Тады, на пачатку 1990-х, каманда мела шмат дасягненняў на рэспубліканскай і саюзнай арэнах. Успомнім, як каманда радавала рабочых і служачых, малых і дарослых сваёй відовішчнай гульнёй. У апошнія гады, заняты палітычнай дзейнасцю, Генадзь Дзмітрыевіч мала бываў на матчах каманды, але гаварыў:

– Я ніколі не змагу "хварэць" супраць "Маладзечна".

А ў сярэдзіне 1990-х, калі ён працаваў старшынёй гарвыканкома, была праведзена рэканструкцыя гарадскога стадыёна. З'явілася магчымасць праводзіць тут міжнародныя сустрэчы. Мы бачылі нямала клубаў і зборных розных еўрапейскіх краін, многіх прызнаных майстроў скуранога мяча. Генадзь Дзмітравіч ведаў, што толькі паўнацэнны адпачынак дае людзям патрэбны настрой для прадукцыйнай і творчай працы.

Маладзечанская арганізацыя Аб"яднанай грамадзянскай партыі выказвае шчырыя спачуванні усім членам партыі з прычыны напаткаўшага іх вялікага гора - смерці намесніка старшыні партыі **Карпенкі Генадзя Дзмітравіча** і ў гэтыя цяжкія дні смуткуе і падзяляе непапраўны боль.

Рэдакцыя «Рэгіянальнай газеты» смуткуе з прычыны смерці былога дырэктара завода парашковай металургіі, старшыні Маладзечанскага гарвыканкома **Генадзя Дзмітравіча Карпенкі** і выказвае самыя шчырыя спчуванні яго родным, блізкім, сябрам.

*СЛОВА ПАМЯЦІ*

# Пакінуў у Маладзечне след

– А які ён, новы дырэктар "Парашкоў"?– успамінаю размову калегаў у 1987 годзе. І адказ:

– Высокі і мажны.

Але не толькі адметнасцю фізічнай запамініўся новы кіраўнік у горадзе. Генадзь Дзмітравіч, у адрозненне ад сваіх папярэднікаў, не паленаваўся прайсціся па ўсіх бытоўках–закутках прадпрыемства. І пераканаўся. Пакуль не будзе выкаранена п'янства тут, на рабочым месцы, толку нават з самай перадавой тэхналогіі не атрымаецца. Менавіта таму і спорту надаваў надзвычайную ўвагу.

Здавалася б, навошта здольнаму маладому вучонаму, які падаваў яшчэ якія надзеі, ехаць у правінцыю? На гэтае пытанне адназначна і сёння цяжка адказаць. А тым больш тады, калі ён даваў сваё першае інтэрв'ю мясцоваму "Святлу камунізму" у далёкім ужо 1987–м. Дзеля чаго было ехаць сюды, быць адарваным ад сям'і, якая жыла ў Мінску, браць на сябе адказнасць за прадпрыемства, якое ледзь ліпела?

Менавіта з першых сустрэч у 1987–м, калі я працаваў у "Святле", цяпер "Маладзечанскай газеце", Карпенка запомніўся чалавекам, які ставіў перад сабой нечаканыя для навакольных задачы. І выконваў іх. Мабыць, гэта тое, што мы называем амбіцыямі. З азначэннем: здаровыя.

Здаровыя амбіцыі дазволілі яму зрабіць лепшым і цікавым жыццё калектыву завода, не спыняцца ў навуковым пошуку. Нечаканасцю для многіх быў прыход Карпенкі ў палітыку. Па першым часе ў Маладзечне яго многія лічылі звычайным наменклатуршчыкам. А ён, хаця і меў дачыненне да наменклатуры, быў дэмакратам.

Яшчэ большай нечаканасцю было вяртанне Карпенкі ў Маладзечна ў крэсла гарадскога галавы. Гэта таксама былі амбіцыі. Здаровыя амбіцыі, а, значыць, на карысць гараджанам. Дзякуючы амбіцыям Карпенкі, інтэнсіўна пачаў будавацца шосты мікраraён на выездзе на Мінск. І калі нешта там не ладзілся, ён запраста мог па прапанове газетчыка паехаць туды, паклікаўшы кіраўніка ўпраўлення капітальнага будаўніцтва, лезці ў гліну, каб паказаць, што зроблена, а што, на жаль, не. Але ён верыў, што гэта будзе зроблена.

Амбіцыі Карпенкі зрабілі Маладзечна фестывальным горадам. І не толькі песенным. Тэатральна–фестывальным таксама. Мала хто сёння згадвае, што менавіта Карпенка змог з першых крокаў "Сакавіцы" пастарацца задаць ёй як мага вышэйшы ўзровень, заручыўшыся падтрымкай самой Стэфаніі Станюты, з якой сябраваў.

Вядома, нехта ўспомніць Палац культуры, які пачаў будавацца пры Карпенку, а сёння развальваецца і расцягваецца няведама кім. Але і з Беларуссю адбываецца сёння тое ж самае. Нават самыя здаровыя амбіцыі часам нам не дапамагаюць, калі па–просту спыняецца сэрца...

*Аляксандр МАНЦЭВІЧ.*

*СТАРЫ АЛЬБОМ*

# Пакуль не настала 1 верасня 1939 года



Вілейка, 1939 год. Яшчэ колькі тыдняў, і выбухне вайна, якая пераверне свет. А пакуль хто прыбірае вуліцу, хто прыехаў на ровары ў цырульню (ці бібліятэку?), хто думае аб прыездзе блізкіх на нядзелю з недалёкай Вільні. Пакуль. Пакуль не наступіла 1 верасня.

ФОТА З ФОНДАЎ ВІЛЕЙСКАГА ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧАГА МУЗЕЯ.

*АПАНТАНЫЯ*

# Сем нот галоўнага інжынера

***ВІЛЕЙКА. У гаражы галоўнага інжынера мясцовай жыллёва–камунальнай гаспадаркі Анатоля Додрыкава сабрана "медзі" на вялікі духавы аркестр. З 30 музычных інструментаў – большасць "ветэранаў", якія ў свой час правялі ў апошні шлях не адзін дзесятак вілейчан. А калі капнуць глыбей, можа высветліцца, што некаторыя трубы спявалі на свецкіх балях, у руках чырвонаармейцаў.***



*Інжынер і музыкант Анатоль Додрыкаў.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

Ён – не калекцыянер–сумяшчальнік. Проста з дзяцінства захапляецца ігрой на духавых інструментах. Адлік яго музычнай біяграфіі ідзе з таго часу, калі шасцікласнік Анатоль іграў на танцах у сваім родным горадзе Дуброўна, што на Віцебшчыне.

**Даведка.** А. Додрыкаў скончыў курсы кіраўнікоў духавых аркестраў пры Віцебскім музвучылішчы, Маскоўскі ўніверсітэт мастацтваў, Гомельскі дарожна–будаўнічы тэхнікум, Беларускі політэхнічны інстытут.

**– Вашая адукацыя 50 "тэхнара" на 50 "гуманітарыя". Аднак, выходзіць, што інжынер перамог артыста?**

– Мае работа і адукацыя распаліся на дзве часткі. Калі б у працоўную кніжку ўпісвалі пасады кіраўніка духавога аркестра і налічвалі пенсію, я ўжо год з 30 быў на заслужаным адпачынку.

Да пераходу ў камунальную службу А. Додрыкаў 21 год адпрацаваў на рамонтным заводзе ў Вілейцы. На грамадскіх пачатках кіраваў духавым аркестрам – мужчынскім, а потым і жаночым. І дэбютаваў першы ў рэспубліцы такі жаночы калектыў на кастрычніцкай дэманстрацыі 25 год таму.

– У рэспубліцы на той час з жаночых музычных калектываў існаваў толькі эстрадны – "Чараўніцы", – расказвае духавік, – і стварыў яго **Генадзь Лятынскі**, мой сябра і калега. Мы разам служылі тэрміновую і ігралі ў адным аркестры. З армейскіх сяброў яшчэ павінныя ведаць **Аляксандра Дзямешку**, ударніка з «Песняроў». А наш жаночы калектыў праіснаваў нядоўга: жанчына з трубой выклікала ў многіх усмешку. Над маімі артысткамі родныя, знаёмыя падсмейваліся. Вось яны і не маглі сканцэнтравацца на музыцы.



*Жаночы духавы аркестр падчас свайго дэбюту, 1974.*

ФОТА З АРХІВА АНАТОЛЯ ДОДРЫКАВА.

Анатоль мае яшчэ адзін тытул "першага". Першы ў рэгіёне апрануў свой самадзейны калектыў у касцюмы. Для мужчын па спецзаказе ў маладзечанскай "Бярозцы" сшылі блакітныя касцюмы з чырвонымі ўстаўкамі, для жанчын – чорныя спадніцы і камізэлькі з нацыянальнай сімволікай. Додрыкаў распрацаваў сваю методыку навучання. Па ёй калектыў з 10–12 чалавек без спецыяльнай адукацыі і навыкаў ігры за 3 месяцы заняткаў будзе гатовы да выступленняў. Выканае 3–4 творы.

**– Што найбольш запомнілася?**

– Сітуацыі ўзнікалі розныя. Рабочыя. Аркестр у 60–х гадах суправаджаў драматычныя спектаклі. Памятаю, як у Віцебску ставілі Астроўскага і артысты агучвалі класіка. Як толькі прыйшоў да камунальнікаў, атрымаў заданне зрабіць катафалк з музыкай.

**– Вяселлі, пахаванні – усё прайшлі?**

– Так. На танцпляцоўцы ў парку ігралі. Спачатку за грошы, а потым без усялякай карысці. Вілейка багатая на духавікоў. Нябожчык **Якаў Хігер** іграў пры Мінскай філармоніі: **Міхаіл Храмцоў** быў лепшым валтарністам рэспублікі, закончыў у Маскве Гнесінку. Ігралі мясцовыя знакамітасці **Мікалай Валынец, Скараходаў, Генадзь Варанцоў, Аляксей Чыжыкаў**.

**– Прэзідэнтаў–духавікоў ведаю: Біл Клінтан – саксафаніст. А вось каб кіраўнік ЖКГ і музыкант – не чуў.**

– У Чэрвені працаваў у камунальнікаў добры трубач. Музыка спрыяе рабоце і наадварот. У нас у камунальнай службе летам каля 600 работнікаў, на балансе 7 кацельняў, 43 кіламетры цеплfavor сетак, лазні, могілкі, вуліцы, асвятленне, вываз смецця. Галава кругам. Памузіцыраваў – зусім іншы настрой.

**– Пры вашай адказнай пасадзе, можа, і па сённяшні дзень кіруеце духавым аркестрам?**

– Мяркую пакіраваць. Таму і не выкідаю з гаража інструменты. Рыхтуюся да 400–годдзя горада. Працую над "Песняй аб Вілейцы".

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

*АДУКАЦЫЯ*

# Лёс дзіцячых садкоў

***МАЛАДЗЕЧНА. З гарадскога аддзела адукацыі стала вядома, што Мінаблвыканком плануе на адным з пасяджэнняў вырашыць лёс дзіцячых садкоў горада. Мяркуецца да 2000 года перадаць іх на баланс гарадскога аддзела адукацыі.***

Па распараджэнні аблвыканкома на бюджэтнае фінансаванне перайшлі ўжо мясцовыя дзіцячыя садкі №№10, 21, 29. Кіраўнікі, наогул, задаволеныя такім становішчам. Асабліва, садок №21, які паўтара года не меў фінансавання. Працей пачалі вырашацца праблемы з харчаваннем, закупкай цацак. Скардзяцца толькі на малую зарплату, але і ў работнікаў гараа яна таксама малая.

Загадчыкі іншых садкоў па–рознаму ставяцца да рашэння мінаблвыканкома. Адміністрацыя садкоў №№9, 26 ад "Спадарожніка" хоча верыць, што іх становішча стане лепшым, бо горш няма куды. У 15, 17, 27–м загадчыкам не вельмі падабаюцца змены, таму што ім жывецца добра пад крылом "Маладзечнамэблі" ды ЗЛМК.

На цяперашні час у горадзе створаная камісія па разглядзе стану дзіцячых садкоў. У яе ўваходзяць прадстаўнікі гараа і гарвыканкома.

Камісія ў прысутнасці загадчыц дзіцячых дашкольных устаноў і прадстаўнікоў ведамства абследуюць аб'екты і выпрацуюць канкрэтныя прапановы па ліквідацыі наяўных недахопаў па падрыхтоўцы ўстаноў і перадачы на баланс аддзела адукацыі.

Загадчыца фінансавага аддзела гарвыканкома **Паліна Вашкевіч** гаворыць, што такое рашэнне ўзнікла ў сувязі з цяжкім становішчам на заводах і прадпрыемствах. Таму гэтыя адзінаццаць садкоў гараа прыйдзецца ўзяць на бюджэтнае фінансаванне.

Становішча ўскладняецца тым, што практычна ўсюды неабходна рабіць рамонт, а гэта для бюджэту непрымальна.

*Анжаліка АРАБІНКА.*

*ЖЫЦЦЁ НАШАЕ*

# 78–гадовы хварэе на пранцы

СМАРГОНЬ. Імкліва растуць у раёне анкалагічныя і венерычныя захворванні. Што датычыць апошніх, то пакутуюць ад іх найбольш 25–30–гадовыя. Аднак ёсць і прыклады іншага кшталту. Нядаўна медыкі выявілі сіфіліс у 78–гадовага гараджаніна–дзядулі.

Сем апошніх год у раёне зніжаецца нараджальнасць і складае цяпер каля 8 немаўлят на тысячу насельніцтва. Смяротнасць, наадварот, расце і складае 13,9 на тую ж тысячу.

Нешта ненармальнае творыцца ў нашых сем'ях і ў грамадстве.

*Павел МАКЛЮК.*

*ВЯЛІКДЗЕНЬ*

# Ці можна дом павесяліць?

ВАЛОЖЫН. Напярэдадні Вялікадня валожынцы, як належыць, праводзяць капітальную ўборку свайго жытла. Набліжэнне свята і яго правядзенне асабліва адчуваецца ў вёсках. Нягледзячы на тое, што ў кожнай жывуць людзі розных нацыянальнасцяў, існуюць агульныя традыцыі, што склаліся гадамі.

Ля валожынскага Вішнева валачобнікі на Вялікдзень заходзяць у хаты са словамі:

– Ці можна дом павесяліць?

Сярод іх ёсць "казначэй", якога называюць чамусьці серуном. Ён трымае банк, носіць кошыкі са здабычай. Дарэчы, валачобнікі добра ведаюць, хто на што багаты, і просяць канкрэтна: мядку, сальца, грошай.

Наведваюцца госці да гаспадароў двойчы. Перад мужчынскім дэсантам валачобнікаў на свята дзятва ходзіць "у жакі".

Яйкі свянцяць у суботу ўвечары і зранку ў нядзелю пасля ўсяночнай. Калі ў гэты год у сям'і нехта памер, фарбуюць яйкі ў фіялетавы колер (валачобнікі ў такую сям'ю не заходзяць).

Калі ў хаце ёсць дзяўчына, якая яшчэ не ўзяла шлюб, спецыяльна для яе валачобнікі спяваюць песню "Віно зялёнае".

Вяскоўцы наперад гатуюць ежу свойскай скаціне, каб свята правесці ў сямейным застоллі. На працягу дня чуецца трэск шкарлупіння яек. Гэтыя спаборніцтвы праходзяць усюды – у хатах, дварах, на вуліцах. Сярод удзельнікаў ёсць свае штатныя "стукачы". У іх свае сакрэты такога своеасаблівага спорту.

*Аддзел інфармацыі.*

*"РГ"–СТАТЫСТЫКА*

# Зарплата

СМАРГОНЬ. Летась заработная плата на мясцовым ЗАСе складала ў сярэднім 2764 тысячы рублёў, на агрэгатным – 3511 тысяч.

Сёлета тут атрымліваюць прыкладна аднолькава: 7656 і 7999 тысяч адпаведна, пры сярэдняй зарплаце ў прамысловасці 8406 тысяч рублёў.

А вось у цэлым па раёне зарплата ніжэйшая – толькі 7170 тысяч.

*Павел МАКЛЮК.*

*КНІГІ*

# Вялікае перасяленне

ВАЛОЖЫН. Адразу 28 тысяч навасельцаў прыбудзе ў горадзе – столькі экземпляраў налічвае кніжны фонд цэнтральнай раённай бібліятэкі.

Ёсць верагоднасць, што духоўны скарб неўзабаве пераселіцца з цяперашняга падвала па вуліцы Партызанскай у будынак былога ўнівермага. Плануецца падвесці сюды камунікацыі і пераабсталяваць інтэр'ер колішняга аб'екта гандлю так, каб максімум зручнасцяў у рабоце атрымалі бібліятэкары, каб утульна адчувалі сябе тут наведвальнікі–абаненты.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

КРЫМІНАЛ, ЗДАРЭННІ , ХРОНІКА

# Мак і пракуратура

СМАРГОНЬ. Нехарактэрныя раней для Смаргоншчыны з'явы выяўляюць раз за разам міліцыянты – продаж і ўжыванне наркатычных сродкаў.

Летась ад перадазіроўкі загінуў 24–гадовы хлопец, у лютым зноў жа з–за перадазіроўкі загінуў яшчэ адзін наркаман. Міліцыя выяўляе ўсё больш выпадкаў куплі–продажу наркатычных сродкаў – у асноўным, гэта макавая саломка. Спецыялісты мяркуюць, што хутка з'явяцца і сінтэтычныя наркотыкі.

Таму пракуратура і міліцыя строга папярэджваюць насельніцтва аб забароне вырошчваць на ўчастках мак. Давядзецца, такім чынам, купляць булкі з макам у гандлі, а не пячы самім.

*Павел МАКЛЮК.*

# Плакаў конік

АСТРАВЕЦ. Пасля нядаўна праведзеных супрацоўнікамі Астравецкай пагранкамендатуры затрыманняў двое літоўцаў пазбавіліся сваіх транспартных сродкаў.

Адзін з іх, **Рымантас Грынрэвічус**, у салоне аўтамабіля "Фольксваген–Гольф" схаваў 15 бутэлек гарэлкі, якія пры праверцы дакументаў у пункце пропуску "Драўнэлі" выявілі пагранічнікі. Па рашэнні суда гарэлка і аўтамабіль былі канфіскаваныя.

Другі літовец, **Чэслаў Жэйма**, перапраўляў на коннай падводзе, схаваўшы ў сене, 120 бутэлек гарэлкі і 35 віна. Акрамя таго, што суд пазбавіў яго кантрабанднага тавару і каня, яму прыйдзецца заплаціць 40 мільёнаў рублёў штрафу.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

# Пагарэў на хабары

ВІЛЕЙКА. Міжрайпракуратурай узбуджаная крымінальная справа па матэрыялах аддзела эканамічнай злачыннасці ў адносінах да былога начальніка аддзела быту завода "Зеніт" Я.

Ён абвінавачваецца ў хабарніцтве: браў ад жыхароў зенітаўскага інтэрната, якія не працуюць на заводзе.

*Аддзел інфармацыі.*

# Жылі, жывуць і будуць жыць

СМАРГОНЬ. Як ні высільваецца мясцовая міліцыя, а ліквідаваць чорны рынак валюты яна не ў стане.

59 чалавек прыцягнулі летась за парушэнні заканадаўства аб валютных аперацыях да адміністрацыйнай адказнасці і 4 – да крымінальнай.

Прайшло толькі тры месяцы гэтага года, а зноў ужо ўзбуджаныя дзве крымінальныя справы па незаконных валютных аперацыях.

*Павел МАКЛЮК.*

# Прыехалі на "Пежо", дасталі ружжо

ВАЛОЖЫН. Яна апантана прабіралася праз хмызняк, пакідаючы на снезе сляды. Хацела ўратавацца ад людзей, што настойліва праследавалі. Але не ўдалося – стрэл паляўнічага ружжа усё ж напаткаў здабычу. Маладая казуля знясілена абмякла на зямлі.

Пагрузіўшы яшчэ неастылы трафей у багажнік "Пежо", два івянчаніны пакінулі заказнік. Нерваваліся. Яны – прафесіянальныя, так сказаць, паляўнічыя – ведалі, што адстрэл жывёлы ў той час быў афіцыйна забаронены. Вяртанне дадому для беспрацоўнага Анатоля Р. і былога егера Валожынскага лясгаса Уладзіміра Б. закончылася няўдала. На прасёлку легкавушку браканьераў спынілі ўдзельнікі праваахоўнай аперацыі "Арсенал" і папрасілі адкрыць багажнік аўто.

Па выяўленым факце браканьерства вядзецца следства. Аматараў паласавацца мясам дзікай еўрапейскай казулі чакае штраф. Памер грашовага пакарання за падобны ўчынак і без таго даволі высокі, а незаконнае паляванне ў заказніку абарочваецца для вінаватых двухразовымі штрафнымі санкцыямі. Дарэчы, адстрэл гэтага віду жывёлы строга лімітаваны. Да таго ж, казуля–ахвяра чакала папаўнення: у чэраве дзікай жывёліны развіваліся два эмбрыёны.

Гора–паляўнічым танней абышлося б паласавацца жаданай дзічынай у якім–небудзь фешэнебельным рэстаране, тым больш, пракаціцца ў сталіцу ёсць на чым.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

# Рыбакі–тапельцы

ВІЛЕЙКА. У мінулую суботу на вадасховішчы ўтапіліся адразу чацвёра.

Кампанія мінчан (сярод іх адна жанчына) прыехала на машыне і зайшла на лёд з боку Вязыні. Усе 36–гадовыя. І пад лёд пайшлі ўсе адразу.

У той жа дзень вадалазы выцягнулі аднаго тапельца, у нядзелю – астатніх.

*Аддзел інфармацыі.*

# Як яблыкі канфіскавалі

ВІЛЕЙКА. На пасту ДАІ затрыманая машына МАЗ, якая ў Санкт–Пецярбург па падробных дакументах везла яблыкі на 2 мільярды 352 мільёны рублёў.

Неўзабаве ў РАУС прыбыў гаспадар грузу Джафараў. Спрабаваў даць хабар начальніку АЭЗ Леаніду Шлянскову. У адносінах да Джафарава ўзбуджаная крымінальная справа. Яблыкі канфіскаваныя і рэалізаваныя ў Вілейцы.

*Аддзел інфармацыі.*



*Падпалкоўнік Леанід Шлянскоў.*

ФОТА ВІТАЛЯ КРУПЯНЬКОВА.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# За што арыштавалі старшага "опера"?

ВІЛЕЙКА. Супрацоўнікамі дзяржбяспекі затрыманы старшы оперупаўнаважаны крымінальнага вышуку Вілейскага РАУС Аляксандр Ж. На момант затрымання ён выконваў абавязкі начальніка аддзялення крымінальнага вышуку (сам начальнік на той час хварэў і меў лісток непрацаздольнасці). Ж. спецыялізаваўся на раскрыцці злачынстваў сярод непаўналетніх. Ён падазраецца ў злачынстве, не звязаным з ягонай работай.

Год таму "опер" праз прадпрымальніка з Мінска адправіў сваю жонку на заработкі ў ЗША. Тая нядаўна вярнулася (працавала гувернанткай). Падзялілася з мужам уражаннямі. Можа, пасля той размовы і вырашыў міліцыянер папоўніць сямейны бюджэт. Звязаўся з прадпрымальнікам–работадаўцам і прапанаваў свае паслугі за 3500 доларaў. Быццам бы аднаго з кліентаў прадпрымальніка затрымалі амерыканскія ўлады і знайшлі ў яго наркотыкі. **І цяпер КДБ лічыць, што** адпраўка работнікаў за мяжу ёсць не што іншае, як шлях перапраўкі наркотыкаў. За грошы і па сваіх каналах чэкістаў можна пераканаць у адваротным.

Мінчанін звярнуўся ў Камітэт дзяржбяспекі. Тыя правялі аператыўную работу і А. Ж. быў затрыманы ў сталіцы якраз за атрыманнем грошай.

Аляксандр Ж. 16 год адпрацаваў у міліцыі. Пачынаў у Маладзечне, у патрульна–паставой службе. У Вілейцы па рабоце – адныя ўдзячнасці.

Крымінальную справу вядзе Мінская абласная пракуратура. На думку супрацоўнікаў міліцыі, іх калега атрымае "па поўнай праграме".

*Віталь КРУПЯНЬКОЎ.*

# Асуджаная за ліпавыя дыпломы

ВІЛЕЙКА. Летась "РГ" (№30 ад 24 ліпеня) пісала, як адзін з работнікаў, які працаваў на ніве вілейскай культуры, выпісваў за грошы ліпавыя дыпломы аб заканчэнні філіяла Мінскага вучылішча мастацтваў. Нядаўна адбыўся суд над, на той час, метадыстам раённага аддзела культуры Людмілай Кунавіч. Апошняе яе месца работы – харэограф Вілейскага ГДК.

Знойдзеныя доказы, што 49–гадовая жанчына падрабіла 7 дыпломаў, брала грошы быццам бы за дапамогу ў паступленні ў інстытут, рабіла маніпуляцыі з працоўнымі кніжкамі работнікаў культуры. Махлярства, вымаганне, злоўжыванне службовым становішчам "пацягнулі" на два з паловай гады пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці. Абласны суд пакінуў у сіле рашэнне гарадскога суда.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

# Сітуацыя на дарогах

СМАРГОНЬ. 110 чалавек загінула летась па розных прычынах на Смаргоншчыне. Жыццё адбіралі 15 цяжкіх злачынстваў, 24 дарожна–транспартныя здарэнні, здараліся самазабойствы, смерць на глебе п'янства і іншае.

Трывожыць мясцовыя ўлады і міліцыю сітуацыя на дарогах. Калі яшчэ ў 1996–1997 гадах Смаргонскае аддзяленне ДАІ было лепшае ў вобласці, то цяпер яно рэзка здае пазіцыі. Расце колькасць аўтатранспарту, адпаведна растуць і ахвяры.

*Павел МАКЛЮК.*

ШТО ПРА НАС ПІСАЛІ 90 ГОД ТАМУ

# У Радашковічах няма каму кіраваць

**г. Радашковічы Віленскай губ. Вілейскага пав.**

Гарадзкіе справы ідуць што раз горш. Доўга быў гарадзкім старастам ешчэ мікалаеўскі капітан Войтовіч. За час яго старасства гарадзкая гаспадарка папсавалася. Горад мае каля тысячы дзесяцін зямлі, млын, пляцы ў мястэчку, дык мог–бы мець вялікія даходы, а тымчасам цяпер мае пятую частку таго, што можэ мець.

Мешчане выбралі цяпер за новага старасту Паўлюка Кіцінскага. Хаця ён не надта вучоны, але гарадзкіе дэпутаты (іх 10 чалавек з хрысціянаў і ешчэ адзін ад габрэяў) пастанавілі, што ўсе яны будуць распараджацца гарадзкой гаспадаркай, а староста будзе спаўняць іх пастанаўленні. Гэтак над усім будзе кантроль грамады.

Але прыйшла бумага, што гарадзкое прысутцтва П. Кіцінскага не зацьвердзіла. Мешчане ня ведаюць цяпер, каго выбраць.

Шэсць дэпутатаў, бачучы, што гарадзкіе справы закруціліся, ды як ешчэ шмат каго спамеж іх вінавацілі і цяпер вінавацяць, што яны больш дбаюць аб сваёй карысьці, адмаўляюцца быць дэпутатам. Гарадзкая гаспадарка тым часам руйнуецца. Млын ужо валіцца, пляцы гарадзкія захватываюць розныя людзі, вучасткі зямлі адданы ў арэнду за палавіну цэны...

Што будзе далей, німа ведама; толькі пакуль што адна бяда, што мала ешчэ мяшчан, каторые бы стаялі за праўду цьвёрда і стараліся па сумленьню палепшыць жыцьцё Радашковіч.

Радашкоўскі Ліс.

**Першая Беларуская Газета з Рысункамі "Наша Ніва" №15 ад 9 апрыля 1909 г.**

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) 31.03 | 7.04 |
|---|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 340 | 340 |
| Кілбаса с/в | 1 кг | – | – |
| Сасіскі | 1 кг | 451 | 451 |
| Селядзец | 1 кг | 270 | 280 |
| Рыс | 1 кг | 180 | 175 |
| Цукар | 1 кг | 140 | 135 |
| Грэчка | 1 кг | 140 | 140 |
| Алей | 1 л | ад320 | 340 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | – | – |
| Маянэз | 250 г | 60–80 | ад 60 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 380 | 380 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 105 | 110 |
| Соус там. «Красн.» | 0,5 л | 105 | 110 |
| Лімоны | 1кг | 370 | 385 |
| СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ | | | |
| Смятана | 1 л | 120 | 130 |
| Масла | 1 кг | 360 | 360 |
| Тварог | 1 кг | 140 | 140 |
| Малако | 1,5 л | 45 | 45 |
| Бульба | 1 вядро | 320 | 260 |
| Яйкі курыныя | 1дзес. | 180 | 160-180 |

# Для актыўнага ладу жыцця

ВАЛОЖЫН. Пасля зімовай "спячкі" аднавіў работу цэх газіраваных напіткаў ЗАТ "Валкамтранс".

Для людзей, якія вядуць актыўны лад жыцця (так значыцца на этыкетцы), выпускаецца газіраваная пітная вада "Акіян". Бутэлькі "Акіяна" выкананыя ў экспартным варыянце. Валожынцы падпісалі кантракт на пастаўку ў Літву 150 тысяч бутэлек гэтай газвады.

Яшчэ адна навінка сезона – сокаўтрымліваючыя негазіраваныя напіткі. Гэта першая спроба ў рэспубліцы наладзіць шырокі выпуск такой прадукцыі. Рэцэпт распрацаваны валожынскімі вытворцамі і беларускай кампаніяй "Араматык". Сёння на паліцах горада ёсць паўтарачкі "Лімон", "Апельсін", "Грэйпфрут", "Вішня", "Яблык".

Падрыхтаваная рэцэптура напіткаў серыі "Спартыўная". Яны будуць нізкакаларыйныя і вітамінізаваныя.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

# Вялікдзень - без яек

СМАРГОНЬ. Летась мясцовая птушкафабрыка атрымала 3719 мільёнаў рублёў прыбытку. Але ад гэтага ні дыетычнага мяса, ні яек не становіцца больш. Наадварот. Яек у мінулым годзе намячалі атрымаць 13191 мільёна штук, а мелі 6201 тысячу, мяса чакалі 311 тон, а атрымалі 140 тон.

Прычыны розныя – гэта і недахоп кармоў патрэбных рэцэптур, і малыя запасы ўласнага збожжа. Страты ад падзяжу птушкі летась склалі суму ў 1357 мільёнаў рублёў, што на 955 мільёнаў больш, чым у папярэднім годзе.

А яек у магазінах Смаргоні няма. На рынку за дзесятак бабулі просяць ужо па 160 і больш тысяч рублёў, хоць зусім, здаецца, нядаўна на прылаўках гэты прадукт прадаваўся па 82 тысячы за дзесятак.

*Павел МАКЛЮК.*

ВЯСНА

# Па "ўраджай" у бярозавы гай

ВАЛОЖЫН. У мясцовым лясгасе добра падрыхтаваліся да збору "ураджаю" бярозавага соку. Мяркуецца, што сёлета на прамысловую перапрацоўку будзе пастаўлена яго каля 200 тон. Лясніцтвам даведзеныя вытворчыя заданні нарыхтоўкі соку.

У Мінск, Самахвалавічы, Краснае, што ў Маладзечанскім раёне, накіроўваюцца транспартныя караваны з сокам, сабраным у бярозавых гаях Пяршайскага, Ракаўскага, Румскага, Валожынскага лясніцтваў. А найбольш беластволых прыгажунь у вішнеўскім краі.

З прамыслоўцамі абмеркаваныя ўмовы разлікаў за ажыццёўленыя пастаўкі. Частку аплаты прадугледжана кампенсаваць за кошт бартэрных здзелак, у асноўным, гэта харчовыя тавары, што будуць рэалізоўвацца ў лясгасаўскім магазіне "Пралеска".

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

ПРАМЫСЛОВАСЦЬ, ПРАДПРЫМАЛЬНІЦТВА

# Прыбытковы малы бізнес

СМАРГОНЬ. 735 суб'ектаў малога прадпрымальніцтва зарэгістравана ў раёне. Гэта 103 прадпрыемствы і таварыствы з абмежаванай адказнасцю, 33 фермерскія гаспадаркі, 659 прадпрымальнікаў.

Толькі летась створана 11 новых прадпрыемстваў, 3 фермерскія гаспадаркі і зарэгістравана 136 прадпрымальнікаў.

Летась структуры малога бізнесу пералічылі ў раённы бюджэт 62835,9 мільёна рублёў падаткаў (14,5% агульнай сумы). Прадпрымальнікі заплацілі падаткаў на суму 9190,9 мільёна рублёў.

Па выніках работы за мінулы год на 91 прадпрыемстве малога бізнесу атрыманы прыбытак на агульную суму 55953,8 мільёна рублёў, а 10 прадпрыемстваў дапусцілі страты ў памеры 2272,5 мільёна рублёў.

За 1998 год малыя прадпрыемствы стварылі 305 новых рабочых месцаў.

*Павел МАКЛЮК.*

